ДАТЫ

# Бярозавыя галінкі не горшыя за букет ружаў

МАЛАДЗЕЧНА. У клубе вайсковай часці віншавалі лепшых. Афіцыёзу з прэзідыумам не было. Пасля цёплых слоў камандзіра сувязістаў падпалкоўніка **Пятра Кошаля** зачыталі загад аб прысваенні ваенных званняў «срочникам», узнагародзе прэміямі афіцэраў, прапаршчыкаў, кантрактнікаў. Затым на сцэне паасобку віншавалі прадстаўнікоў дынастый **Рыжовых** (бацька, сын, дачка), **Кісліцкіх** (муж, жонка), **Салаўёвых** (бацька, сын), **Цітарэнкаў** (бацька, сын).

**Алена Рыжова**, справавод у часці, з 4 год разам з бацькам (падпалкоўнік **Барыс Рыжоў** служыць старшым інжынерам палка) выязджала на вучэнні. Гэта было на Далёкім Усходзе. А ў Чэхаславакіі лепш за ўсіх дзяцей вайскоўцаў страляла з вінтоўкі. Там бегала разам з салдатамі 6-кіламетровыя марш-кідкі. Абганяе салдатаў на дыстанцыі і тут. Не выключае магчымасці паступіць у ваеннае вучылішча.

**Алена Кісліцкая** працуе ў часці на тэлефоннай станцыі. Успомніла, як разам з мужам служылі на востраве Новая Зямля:

- Там голае каменне і танюсенькі слой глебы. Расце толькі карлікавая бярозка - цягнецца па зямлі. Да Архангельска самалёт ляціць 2,5 гадзіны. Там з Вялікай Зямлі муж (цяпер маёр **Аляксандр Кісліцкі** служыць намеснікам камандзіра батальёна) прывез сапраўдныя бярозавыя галінкі. І яны на Новы год распусціліся.

Жылі сем'і ў ЦУБах (вагончыках). І камандзір той часці заўсёды ставіў Алену ў прыклад як спецыяліста па адкопванні вагончыка з-пад снегу.

А яшчэ ўспомнілі Кісліцкія, як саладат на пасту «непрыяцеля» застрэліў - белага мядзведзя. Камісій панаехала, бо мішка ў «Чырвонай кнізе». Звера зацягнулі ў штаб, і кожны хацеў побач з ім сфатаграфавацца.

**Міхаіл Салаўёў** - маёр у запасе:

- Я сына папярэдзіў: станеш вайскоўцам - усё жыццё ў шынялі хадзіць будзеш. А нарадзіўся мой Эдуард у Забайкаллі пры -40°С. Зямля ад марозу трэскалася. За ўсю службу яскравых уражанняў шмат. Адзін малюнак і цяпер перад вачыма стаіць: стаім усе на стадыёне і кожны ў процівагазе.

**Эдуард Салаўёў** (старшы лейтэнант, начальнік станцыі) з будучай жонкай **Наталляй** вучыўся ў СШ №12. Яна на два гады маладзейшая. І на пытанне - як вашы бацькі з неваеннай сям'і ставіліся да жаніха з ваеннай - шчыра адказала:

- Яны сабе не ўяўлялі, што значыць быць жонкай ваеннага. Таму і не адгаварылі мяне браць шлюб.

Старшы прапаршчык **Мікалай Цітарэнка:**

- Сына Алега ўбачыў праз тыдзень пасля яго нараджэння - быў на вучэннях.

Сяржант тэрміновай службы **Алег**:

- Прызваўся – і адразу тут, у часці, адчуў бацькоўскі клопат. Аднак гэта не піражкі, цукеркі. Бацька дапамагаў парадамі.

**Вольга Цітарэнка**:

- Мікалай першыя кветкі падарыў, калі мне было 15. Гэта былі гладыёлусы. А апошні раз букет руж на 26 лістапада - 22 гады разам.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

**За садзейнічанне ў напісанні матэрыялу аўтар шчыра ўдзячны маёру Віктару Фядосіку.**



*Алена Рыжова.*



*Сям"я Кісліцкіх.*



*Спецыяльна для «Рэгіянальнай газеты» сфатаграфаваліся: ваенны камісар Валерый Голуб, былы камандзір часці Пётр Бескаравайны, намеснік начальніка ўпраўлення войскаў урадавай сувязі КДБ Мікалай Анацка, цяперашні камандзір часці Пётр Кошаль, былы камандзір часці Іван Пігар.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Днямі вайскоўцы часці **Вячаслаў Савуліч, Ігар Сысун, Сяргей Цвірко, Віктар Корсак** занялі 1 агульнакаманднае месца і перамагоі ў эстафеце на першынстве Камітэта дзяржбяспекі РБ па лыжным спорце.

А яшчэ ў часці ёсць хор афіцэраў і прапаршчыкаў.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 17.02 | 24.02 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 310 | 310 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 1054 | – |
| Сасіскі | 1 кг | 330 | 360 |
| Селядзец | 1 кг | 270 | 289 |
| Рыс | 1 кг | 160 | 170 |
| Цукар | 1 кг | 125 | 125 |
| Грэчка | 1 кг | 120 | 120 |
| Алей | 1 л | 265-310 | 300–320 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 85 | 85 |
| Маянэз | 250 г | 60–75 | 60–75 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 340 | 360 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 100 | 100 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 85 | 85 |
| Лімоны | 1кг | 360 | 380 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 120 | 150 |
| Масла | 1 кг | 250 | 300 |
| Тварог | 1 кг | 150 | 150 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 200 | 200 |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 120 | 120 |

## Камароўка 23 лютага

Застаецца 10 дзён да жаночага свята, і мужчынам ужо сёння трэба думаць пра падарункі сваім жанчынам. Лепшым жа падарункам быў і застаецца букет жывых кветак.

| | | |
|---|---|---|
| Ружы | 1 шт. | 120000–360000 |
| Гваздзікі | 1 шт. | 85000–120000 |
| Калы | 1 шт. | 300000 |
| Лілеі | 1 шт. | 600000 |
| Касачы | 1 шт. | 100000 |

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## Станцыя будзе прыбытковай

СМАРГОНЬ. Са стратамі ў раёне працуюць ААТ "Смаргоньлён", станцыя тэхнічнага абслугоўвання, райбыткамбінат, кінавідэапрадпрыемства і рэдакцыя раённай газеты. Прычыны ў кожнай арганізацыі розныя, мерапрыемствы па выхадзе са становішча – таксама розныя.

Старшыня райвыканкома **Мікалай Кавалёў** перакананы, што і станцыя тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў, якая задзейнічала пакуль не больш за 20 працэнтаў вытворчых плошчаў, павінна быць прыбытковай. Для гэтага райвыканком, са згоды міністэрстваў эканомікі і прамысловасці, прыняў станцыю ў камунальную ўласнасць раёна.

– А там будзем бачыць, што і якім чынам арганізаваць, – кажа старшыня раённай улады.

За час з аб'яднання горада і раёна ў адну адміністрацыйную адзінку ўдалося стабілізаваць і прыкметна палепшыць сітуацыю ў эканоміцы: на прамысловых прадпрыемствах, будоўлях, у перапрацоўцы сельгаспрадукцыі.

*Павел МАКЛЮК.*

## Завод пакрысе "выплывае"

СМАРГОНЬ. Амаль на 95 мільярдаў рублёў рэалізавана летась прамысловай прадукцыі на заводзе аптычнага станкабудавання. Паступова памяншаюцца запасы на складах; цяпер у іх знаходзіцца прадукцыі на 17 мільярдаў рублёў.

З 34 пакупнікамі падтрымліваюцца кантакты па рэалізацыі этыкецiровачных машын–аўтаматаў, здольных адначасова наклейваць чатыры пазіцыі этыкетак. Яны атрымалі добрыя водгукі ў расійскіх і беларускіх вытворцаў лікёра–гарэлачных вырабаў.

Машына досыць складаная, таму на год плануецца выпусціць іх толькі 24 штукі.

*Павел МАКЛЮК.*

## Зарплата вырасла ў 3 разы

У параўнанні з 1997 годам у тры разы павялічылася зарплата на агрэгатным заводзе. Летась яна павышалася чатыры разы і складае, у сярэднім, 5682,6 тысячы рублёў.

Прадпрыемства расшырае наменклатуру вырабаў, асвойвае вытворчасць аўтамабільнага прычэпа САЗ–750, кормараздатчыка на базе міні–трактара, сенакасілак шырынёй захопу 1,35 метра, пачаты серыйны выпуск мотаблокаў з рухавікамі чэшскай фірмы магутнасцю 9 і 11 конскіх сіл. Вядзецца падрыхтоўка да вытворчасці мотаблока–шчоткі для камунальнікаў захопам шырынёй у 75 сантыметраў, навяснога бульдозера шырынёй 92 сантыметры, прычэпа "Беларусь САЗ–500" спрошчанай канструкцыі. Разам з фірмай "Аўтапрастора" з расійскага Уладзіміра палепшаны дызайн міні–трактара МТЗ–0,82.

*Павел МАКЛЮК.*

ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ

# Льготных штрафаў не бывае

***МАЛАДЗЕЧНА.** Жадаючыя "зэканоміць" на аплаце электрычнай энергіі не перавяліся: летась па Маладзечаншчыне складзена больш за 600 актаў на крадзеж электрычнай энергіі, па якіх дзяржаве вернута каля 2 мільярдаў рублёў. У адпаведнасці з Правіламі карыстання электрычнай энергіяй, пры выяўленні факта крадзяжу з абанента спаганяецца штраф у пяцікратным памеры ад сумы прычыненай страты. А калі ўстаноўлена, што пашкоджаны электрычны лічыльнік, то спаганяецца і кошт яго рамонту.*

Кіраўнік групы энергаінспекцыі **Васіль Сазонаў** называе асноўныя віды крадзяжоў электрычнай энергіі: падключэнне гаспабудоў па–за электрычным лічыльнікам, механічнае затармажванне дыска лічыльніка, падключэнне ў жылых дамах электрычных награвальных прыстасаванняў не праз лічыльнік. Пры гэтым выкарыстоўваецца праводка, не разлічаная на падключэнне награвальных прыстасаванняў, што часта з'яўляецца прычынай пажару.

Цяперашнія тарыфы на электрычную энергію складаюць 570 рублёў у сельскай мясцовасці за 1 кВт/г і 850 рублёў у горадзе. Разлік абанента па 3–фазным лічыльніку складае 5170 рублёў. Для тых, хто аплачвае электрычную энергію, выкарыстоўваемую для гарачага водазабеспячэння і ацяплення, тарыф за 1 кВт/г: удзень 15799 рублёў, у начны час 3161 рублёў. Аднак нават тыя, хто аплачвае за электрычную энергію па льготным тарыфе (50%), намагаюцца "знізіць" свае расходы, за што абкладаюцца штрафамі.

Напрыклад, жыхароў горада **А. Мажынскую і А. Сушко** аштрафавалі адпаведна на 12.8 мільёна і 2.3 мільёна рублёў, **Н. Аніську** з вёскі Раманы – на 385 тысяч рублёў.

Танней плаціць своечасова і сумленна, ці не так?

*Святлана КЛІМОВІЧ.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Палахлівыя тут не жывуць

***ВІЛЕЙКА.** Дом "барачнага тыпу" па Першамайскай, 54, відаць, прыглянуўся барабашкам.*

*– Калі пад акном грукае, калі пад столлю, – гаворыць Мальвіна Ярская, – месца гэтае гіблае.*

Дом стаіць на яўрэйскіх магільных помніках. Калі забрацца пад яго, у месца, прыстасаванае пад склеп, можна ўбачыць мармуровыя пліты з прозвішчамі на іўрыце.

У саракавых гадах немцы будавалі нейкую кантору. Вырылі яміну, з могілак, што былі за лясочкам, як ехаць на Асіпавічы, сцягнулі помнікі на падмурак. Будыніну ўзвялі, а вось давесці да толку не паспелі. Пасля вызвалення Вілейкі будоўлю працягнулі нашыя зняволеныя. Пры савецкім ужо рэжыме. Тэхпашпарт на дом выдадзены ў 1946–м.

– Палахлівыя не жылі б тут ніколі, – гаворыць Ярская, – і сёння, бывае, нейкая костка з зямлі вылезе.

Дом на 6 кватэр стаіць ля анкалагічнага дыспансера, былой турмы (у яе двары шмат знойдзена чалавечых костак). Некалі ён лічыўся ведамасным. Жыла ў ім вольнанаёмная турэмная абслуга. Мальвіна таксама працавала ў турме прачкай. Аднак засялілася, калі турму ў горадзе ліквідавалі.

– Тады для мяне займець свой пакой было шчасцем, – гаворыць жанчына. – Зарабляла ў месяц 35 рублёў, 4 плаціла за кватэру, якую здымала. А так, лічы, і эканомія. Праўда, не думала, што ўсё жыццё пражыву на гіблым месцы.

Калі прыйшоў на Першамайскую, на плоце ля дома сядзеў вялізны чорны кот. Не злез ён адтуль і тады, калі я развітаўся з гаспадыняй.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БІРЖА ПРАЦЫ

## Звальненне – папулярнае жаданне

СМАРГОНЬ. На 1 студзеня ў гарадскім цэнтры занятасці стаяла на ўліку 1527 беспрацоўных. Беспрацоўе ў Смаргоні крыху зменшылася, але застаецца яшчэ высокім, яно складае 4,56 працэнта.

Як і раней, дамінуюць у структуры зарэгістраваных беспрацоўных звольненыя па ўласным жаданні, іх амаль палавіна.

Удзельная вага беспрацоўных жанчын у параўнанні з 1997 годам летась знізілася, а моладзі (16–29 год) – наадварот, павялічылася.

Некаторае паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў горадзе прывяло да росту колькасці вакансій. У цэнтр занятасці звярнуліся 24 суб'екты гаспадарання, якім патрэбныя работнікі тых ці іншых спецыяльнасцяў.

Аднак значная частка беспрацоўных ужо нядрэнна прыстасавалася да цяперашніх умоў і вяртацца на заводы ці будаўнічыя пляцоўкі не пла[illegible]уе.

*Павел МАКЛЮК.*

## Яны былі на грамадскіх работах

СМАРГОНЬ. Амаль 2,5 тысячы беспрацоўных былі занятыя летась на гарадскіх аплачваемых работах – на будоўлях, у аграфірме "Вілія", у калгасах і саўгасах, на вузле сувязі і хлебазаводзе, у аўтапарку, іншых арганізацыях. Усяго такіх адрасоў было звыш за 110.

14 брыгад дапамагалі ва ўборцы ўраджаю; апрача грашовай аплаты, калгасы разлічваліся з імі прадукцыяй раслінаводства. Фонд садзейнічання занятасці кампенсаваў калгасам і саўгасам выдаткі па дастаўцы беспрацоўных да месца работы на суму 222,9 мільёна рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

З НЕНАДРУКАВАНАГА

# Дзённік

*(Знойдзены ў дупле дрэва ла санаторыя «Сасновы Бор»)*

*Працяг.*

*15–ы дзень.* Лазіў на дрэва па просьбе Элачкі і выразаў на кары два спалучаныя сэрцы і словы: Элада + Алекс = каханне.

Доўга потым цалаваліся, смачна, без перапынкаў. Элачка сказала, што існуе аж 50 спосабаў пацалункаў. Жавалі Дыракол–дырол. Чаму нам гэтага не рабіць, калі і на танцах у "Сасновым бары" можна бачыць жвачных істот.

*16–ы дзень.* Элачка шапнула мне на вуха, што заўтра скажа надзвычай важную і радасную для мяне навіну. Ноччу дрэнна спаў, хацеў сабе ўявіць, што гэта будзе за навіна.

*17–ы дзень.* Згараю ад жадання хутчэй даведацца ад Элачкі навіну. Але яна марудзіць, не спяшаецца сказаць. Вядзе ў лес, далей ад людскога вока і вуха. Калі санаторны корпус быў далёка, спынілася, памаўчала, сказала:

– Некаторыя вучоныя нярэдка пішуць і гавораць такой затуманенай мовай, напрыклад: "По мере продвижения в глубь лесного массива наблюдается увеличение древесного материала". Як карацей пра гэта сказаць?

– Чым далей у лес, тым больш дроў, – выгукнуў я. Сюды прыйшлі не дзеля загадак. Найперш хачу пачуць навіну, якую мне падрыхтавала.

Элачка агледзела наваколле, быццам хацела пераканацца, ці не падслухоўваюць нас, і на вуха шапнула:

– Мілы, дарагі. У нас будзе... дзіця.

Яе словы падкасілі мяне, я асунуўся. Элачка мела з сабой нашатырны спірт, падсунула пад нос. Зноў прыпала да майго вуха і пралепятала:

– Гэта ж для цябе радасць, падумай і ацані падзею. Мо ты іншай думкі? Заўтра скажаш.

Ледзь прывалачыўся ў корпус. Адняло мову, свет зрабіўся шэры, расхацелася жыць, кахаць.

*18–ы дзень.* Наступны дзень хадзіў сам не свой. Змяніўся з твару. Адпачываючыя і ўрач пыталіся, у чым справа. Хіба адкрыеш кожнаму свае патаемныя перажыванні?

Элачка да мяне моцна прытулілася, цмокнула ў шчаку, пагладзіла валасы, глянула ў вочы і пытаецца:

– Ды ты не рады быць бацькам?

Я маўчу. А яна:

– Ёсць сродак пазбавіцца ад гэтага.

– Які? – пытаю. А яна:

– Які ты нездагадлівы, шызакрылы галубочак. Толькі за паслугі трэба плаціць такому чалавеку–выратавальніку.

Аддаў я Элачцы ўсе свае прыхаваныя грашовыя запасы. Як у яе загарэліся вочы, нейкія чорцікі ў іх зайгралі! Сказала, што паедзе ў Радашковічы да такога спецыяліста, які пазбавіць за такую суму мяне бацькоўства. Трэба чакаць яе хуткага вяртання і не хваляваცца.

*19–ы дзень.* Стала адлягаць ад сэрца, бо ніякага следу ад нашай гульні не застанецца. Блукаў па лесе, глядзеў на надпіс на дрэве "Саша + Эла = каханне". Вышэй гэтага надпісу дзяцел паглыбляў дупло, рабіў жытло сабе ці па заказе вавёркі.

*20–ы дзень.* Ад Элачкі ніякіх звестак па тэлефоне. У абед прынеслі пошту. Прыслала пісьмо, дарагая. У ім коратка: "Поўны кішэнь пацалункаў і мяшок абдымкаў".

*21–ы дзень.* Ніякіх звестак ад Элачкі. А што, калі яна?.. Не можа быць! Такая прыгожая, абаяльная, ды цяжка вымавіць... аферыстка. Не можа быць?.. Можа быць!..

*22–і дзень.* У грудзях засела крыўда. Сэрца дае перабоі. Урач паслаў на ЭКГ, аналіз крыві, ды яшчэ... Цяпер мне зразумела, чаму Эла–Элачка, Ёлачка–Цёлачка не падае звестак. Знікла з санаторыя, узяла дакументы і з'ехала. Не станеш жа ў рэгістратуры пытацца яе адрас, не дадуць. Так мне і трэба, ёлупню, боўдзілу. Зачаравала міні–спадніца. Спакусілі прыгожыя вочкі, прывабны стан ды румяныя шчочкі. Слоўцы, што мядок. Дык што за дзіва, перад ёй ўстоіць рэдкі мужчына, нават той, у каго за плячыма растуць крылы анёла.

*23–і дзень.* О радасць! Невыказная і чаканая! Жонка прыслала перавод. Паверыла, што згубіў грошы. Мілая, дарагая. Шлю табе пацалунак па паветры. А як прыеду, дык расцалую з ног да галавы.

На маё імя ў ячэйцы ляжала паштоўка, на ёй пісалася: "Саша! Асмельваюся запрасіць на спатканне ля фантана. Тома".

Дудкі! Не пайду, нахадзіўся! Хопіць! Не пападуся больш ні на якую вудачку, не спакусяць ніякія прыманкі! Але не кажы гоп, калі не пераскочыў. Вось стане поперак дарогі Аня ці Света, Ліза ці Ганэта, тады што рабіць? Думай, Саша, думай. Будзь аптымістам. Пазбавіўся грошай, але прыдбаў салодкія ўспаміны.

*24–ы дзень.* Ура! Аддалі талон ад пуцёўкі. Еду дамоў. Да мілай, цярплівай, добрай жоначкі! Яна мяне радасна сустрэне. Добра, што ў "Сасновым Бары" з нашай мясцовасці ніхто не адпачываў і не бачыў маіх паходжанняў з Элачкай.

Знікла з гарызонту Элачка. А можа, з ёй здарылася штосьці непрыемнае і не змагла пра гэта паведаміць? Тады даруй, мілая, што так дрэнна падумаў. Не вязу жонцы падарунак. Я сам ёй падарунак ды мой салодкі пацалунак. Вось бы ноччу спрасоння не вымавіць імя Элачка, тады жонка западозрыць, быць бядзе.

Так, еду сёння дамоў. А што рабіць з дзённікам?

Нізавошта дамоў не вазьму. На той сасне, дзе выразаў імёны, дзяцел майстраваў дупло. Вось туды і схаваю ад людскога вока. Мо, калі–небудзь прыеду сюды, дастану, прачытаю. Ад успамінаў пра салодкую Элачку, пяшчотную, непаўторную, закалоціцца сэрца, ручаінамі пальюцца слёзы.

Хутчэй дзённік у дупло – і на аўтобус!

***Саша МАЛАДЗЕЧАНЕЦ.***

СМАЧНА ЕСЦІ

## Шурпа пачынаецца з нажа

У час адной са сваіх вандровак у Краснаярск я з сябрамі наведаў рынак, дзе выхадцы з Сярэдняй Азіі гандлявалі садавінай і гароднінай. Тут мы выпадкова пазнаёміліся з узбекамі, адзін з якіх некалі служыў у войску ў нашай рэспубліцы. Памятаючы пра гэтую "хорошую страну", дзе яму вельмі спадабаліся нашы "дранкі", ён запрасіў нас на шурпу.

Шурпа пачалася з нажа, які тачылі аб піялу, раз за разам спрабуючы на палец. Калі нож стаў востры, як брытва, узбекі прывязалі баранчыка да дрэва, а самі, апусціўшыся на калені, пачалі маліць алаха, каб ён дараваў ім смерць жывёлы.

Потым перарэзалі баранчыку горла і, счакаўшы, пакуль сцячэ кроў, зрабілі па папярочным надрэзе на кожнай назе. У кожны надрэз па чарзе ротам надзьмулі паветра і завязалі. Затым палкамі пачалі лупцаваць тушу баранчыка (гэта робіцца для таго, каб скура лепей адстала ад мяса; пасля лупцавання яна знялася, як панчоха.

Грудзінку і рэбры палажылі ў вялікую каструлю, залілі вадой, пасалілі, дадалі лаўровы ліст і перац гарошкам і варылі каля 1,5 гадзіны. Потым дадалі нашынкаваную цыбулю і моркву, цэлую бульбу і стручок чырвонага перцу. Варыць да гатоўнасці бульбы. Перад падачай на стол дадаць здробленую зеляніну кінзы і чорны молаты перац.

Мяса выклалі на вялікае блюда, а шурпу разлілі па піялах. Густы духмяны булён – гэта не проста ежа, гэта добры сродак для аднаўлення сіл.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

## Паштэт «Загадкавы»

Загадкавасць стравы можно патлумачыць дзвюма прычынамі: па–першае, на смак ніхто не здагадваецца, з чаго яна прыгатаваная, а па–другое, нават калі і паведаміць, то ўзнікае пытанне "што за звер такі "камса".

Праз мясарубку прапускаем камсу (папярэдне выняўшы з яе хрыбет), плаўлены сырок, масла, моркву. Плаўлены сырок і масла лепш патрымаць у маразілцы гадзіны дзве, каб не заліпалі ў мясарубцы. Старанна перамешваем.

| | |
|---|---|
| Камса | **0,5 кг.** |
| Плаўленыя сыркі | **3 шт.** |
| Масла | **50 г.** |
| Морква | **200 г.** |

## Суп добрай жанчыны

Рэцэпт для аматараў французскай кухні. На прыгатаванне гэтага супу вам спатрэбіцца каля гадзіны, што само па сабе нядрэнна. Назва ж яго сапраўды чароўная.

Гародніну пачысціць, памыць, парэзаць маленькімі кавалачкамі і абсмажыць у 50 грамах разагрэтага масла. Дадаць кіпень і вострыя прыправы. Варыць 45 хвілін. Пры жаданні ў момант падачы на стол дадаць масла ці смятанку.

| | |
|---|---|
| Морква | **250 г.** |
| Цыбуля-парэй | **250 г.** |
| Масла | **80 г.** |
| Бульба | **500 г.** |
| Вада | **1.5 літра** |
| Соль | |
| Перац | |
| Лаўровы ліст | |
| Гваздзіка | |

***Падаваць гэтую птушачку, як вынікае з назвы, патрэбна пры свечках, і, выходзячы з абмежаванага памеру кураняці, — для дваіх, не больш.***

## «Рамантычнае кураня»

Тоўсценькае, але не тлустае цыпляня раздзелаць на парцыённыя кавалкі. Кожны кавалак нацерці соллю, невялікай колькасцю чорнага перцу, абваляць у муцэ і абсмажыць на патэльні з маслам. Затым скласці кавалачкі ў сатэйнік (качачніцу, куратніцу), дзе ўжо разагрэты алей. Падсмажыць дробна парэзаную цыбулю. Дадаць цыбулю ў сатэйнік. Кураня заліць белым віном на адну трэцюю частку, дадаць ачышчаныя ад скуркі і нарэзаныя кубікамі антонаўскія (кісла-салодкія) яблыкі. Тушыць каля 30 хвілін. Падаваць лепш з вараным рысам, паліваючы соусам, што ўтварыўся.

| | |
|---|---|
| Кураня | **1 шт.** |
| Цыбуля | **2 шт.** |
| Яблыкі | **2-3 шт.** |
| Белае віно | **100-200 мл.** |
| Соль | **Па густу** |
| Чорны перац | **Па густу** |

## Татарскі соус

Нацерці на тарцы агуркі, парэзаць дробна–дробна часнок, дадаць маянэз (чым больш, тым лепш). Усё старанна перамяшаць і паставіць у халадзільнік на 15 хвілін.

| | |
|---|---|
| Агуркі марын. | **2-3 шт.** |
| Часнок | **5 зубкоў** |
| Маянэз | **200-250 г.** |

***Наташа ГАМОЛКА.***

## Кетчуп "Чырвоная смерць"

Гатуецца прыправа на базе таматнага соуса "Мінскі" (вытворчасці Красненскага кансервавага завода, Маладзечанскі раён).

На слоік бярэцца вялікая галоўка часнаку (прапушчаная праз прыладу для расціскання), палова маленькай лыжкі чорнага молатага перцу і крыху молатай каляндры. З такой прыправай вельмі смачная вілейская макарона.

| | |
|---|---|
| Соус таматны | 500 г |
| Макарона | 700 г |

***Ігар КІЦІКАЎ.***

МІНІ–КОНКУРС



## Хто пазнае земляка?

Маладзечна, лета–1998, гарадскі стадыён. Нашы пазаштатныя юныя следапыты адшукваюць гэтага мужчыну, ці падобнага на яго. Ананімнасць таму, хто звернецца ў рэдакцыю, гарантуецца.

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

НАТАТКІ ЗЛОСНАГА ЧАЛАВЕКА

## Гарадскія прыкметы

1. Калі ў горадзе непагадзь, дождж – бдуць класці асфальт.
2. Калі пачалі класці асфальт – хутка будзе дождж.
3. Калі раптам у дзяржкрамах з'явіліся танныя каўбасы, масла – у горадзе праверка з Мінска. Праверка паедзе – каўбасы знікнуць.

***Валерый ХІНЕВІЧ.***

ШАШКІ

# Чалавек года

***МІНСК. Галоўнаму рэдактару часопіса "Беларусь" Аляксандру Шабаліну за серыю матэрыялаў пра Нарвегію, апублікаваных у 1998 годзе, і стварэнне таварыства "Беларусь–Нарвегія" прысуджаная спецыяльная прэмія.***

Нарадзіўся ён у 1938 годзе ў Пухавічах. Бацька, удзельнік партызанскага руху на Беларусі, пасля вайны працаваў сакратаром райкома КПБ у Смаргоні, абкома ў Маладзечне. Там жа жыў і вучыўся Аляксандр. Пасля заканчэння ў 1956 годзе сярэдняй школы паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут, не закончыўшы яго, пачаў працаваць у Маладзечанскай абласной газеце "Чырвоны сцяг", затым у іншых перыядычных выданнях, у тым ліку, і "Комсомольской правде", у апараце ЦК КПБ, а з 1978 года – галоўным рэдактарам часопіса "Беларусь".

У 50–х гадах Аляксандр разам са сваім братам Анатолем (ён пазней стаў інжынерам) актыўна займаўся шашкамі, асабліва кампазіцыяй. Разам яны складалі эцюды, канцоўкі, задачы. Апошнія на ўсесаюзных конкурсах па гэтым відзе спаборніцтваў атрымалі некалькі ганаровых водгукаў. І хаця браты ўжо даўно адышлі ад свайго юнацкага захаплення, заслуга іх у развіцці шашачнай кампазіцыі ў рэспубліцы значная.

У часопісе "Беларусь", які выдаецца з перапынкам з 1930 года, некалькі дзесяткаў год рэгулярна вядзецца шашачны аддзел з прапагандай гульні, даступнай кожнаму чытачу. Вялікі ўклад у гэта ўнес А. Шабалін – чалавек года.

Для самастойнага рашэння прапаную канцоўку братоў Шабаліных, складзеную імі яшчэ ў 1956 годзе. У гэтым вострым становішчы разрадка наступае неадкладна пасля падрыву поля е7.




**Белыя пачынаюць і выйграюць.**

Праверце правільнае рашэнне эцюда А. Сямёнава, змешчанага ў "РГ" № 50 за 11–17 снежня 1998 года.

1. ef2 bc5 (1...fe3 2. de7 і 3. ef8x. 1...ba5 2. dc5 ab6 3. c:a7 ab4 4. de7 bc3 5.ed8 cd2 6. df6 dc1 7. ab8x) 2. d:b4 ab6 (2...fe3 3.dc5 і 4. ba5x) 3. bc5 ba5 4. cb6 і 5. dc5x.

Правільныя адказы першымі даслалі Аляксандр Барташ (Маладзечна), Фёдар Сарокін (Астравец), Анатоль Гомза (Вілейка).

***Анатоль РОГАЧ, кандыдат у майстры спорту.***

ГАРАСКОП 1–7 САКАВІКА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Важны дзень 6. Сканцэнтруй сваю ўвагу на чым–небудзь адным.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Важны дзень 5. Лепш не купляй новыя рэчы, бо яны доўга не праслужаць.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добрыя дні 2–4. Магчыма далёкае падарожжа ці проста камандзіроўка.

**РАК (22.06–23.07)**
Кепскі дзень 2, важны 5. Асоба з–пад знака Стральца будзе тваім надзейным партнёрам.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Добры дзень 1, кепскі 3. Сябры дапамогуць табе вярнуць былы прэстыж.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Важны дзень 7. З фінансамі не будзе праблем.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кепскія дні 1, 2. У цябе з'явяцца схільнасці да самаадукацыі.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 2, 3. Будзеш клапаціцца пра грамадскі стан.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Важны дзень 7. Нарэшце, "прачнецца" твой энтузіязм.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Добры дзень 5. Успомні пра адпачынак. Важныя літары алфавіта для цябе – А, Р, Я.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Важны дзень 1. Ты заваюеш аўтарытэт сярод калег.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добрыя дні 4, 6, кепскі 3. Абавязкова падумай над новым праектам.

